www.nv-online.info

№ 19 (4168)

7 сакавіка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

## Шантаж?

Если верить письму заместителя председателя правления «Газпрома» В.Голубева на имя министра энергетики России А.Новака, цена на газ для Беларуси повышена на 7 долларов США, или на 6,8 процента.

Скорее всего, пока это не окончательно. Очередная бумажка за подписью очередного российского правительственного клерка. А потому никто ничего не комментирует ни в Москве, ни в Минске. Все ждут заседания Высшего государственного совета так называемого Союзного государства. Там, вероятно, после двусторонних переговоров и будет принято окончательное решение, и весь этот взаимный шантаж наконец прекратится.

Спокойно! Что, собственно говоря, случится, если цена действительно вырастет?

Случится весьма неприятная, разумеется, вещь. Белорусская государственная промышленность – штука весьма энергоемкая. Вся наша энергетика основывается на газе. У Украины альтернатива была: там всегда значительная часть электростанций работала на угле, потом их перевели на газ – Янукович доводил это дело до конца, но уж совсем вернули уголь после начала конфликта в Донбассе.

У нас альтернативы нет и не было: углем, как говорится, не вышли. А когда поляки предлагали нам поставки силезских углей (еще при Кебиче), то мы добросовестно отказались. Так что повышение цены на газ даже на столь, в общем-то, незначительную сумму наши национальные гиганты почувствуют. Как, впрочем, и население.

Но – не умрем.

От жары вот можем умереть. Батареи у каждого минчанина жарят – это сегодня-то, при плюсовой температуре! – так, будто мы где-то за Полярным кругом живем. Мне довелось однажды встречать Новый год в Нарьян-Маре – вот там при температуре минус 56 градусов батареи были так раскалены, как сегодня в Минске! Как видим, режим экономии по большому счету неведом ни белорусскому государству, ни белорусским гражданам, ни тем паче белорусским коммунальным службам. В этом «любовном треугольнике» привыкли экономить друг на друге, но никак не на себе.

За все нужно платить. В том числе и за независимость. Да, мы не хотим платить за независимость кровью – как платит сегодня героический народ Украины. И это нежелание я могу понять. Но мы не хотим платить и комфортом – хотя литовцы, латыши, эстонцы в первые годы независимости действительно испытали дискомфорт от недостатка энергоресурсов и высоких цен на энергоносители из России – и остались живы. Мы не хотим рассчитываться и деньгами!

А так не бывает. Платить нужно. Иначе отношения «товар – деньги – товар» перестают работать.

И льгот добиваться не следует. Смысл какой в льготах? В том, чтобы при новой попытке нового правительства России (или старого) поднять цену мы вновь всей страной испытывали шок? Не надеешься на льготы – живешь, как говорила экс-министр и автор декрета о тунеядцах, по средствам. А жить действительно нужно по средствам.

Готовы ли мы психологически к новым условиям жизни? Наше возлюбленное государство многие годы строило ледовые дворцы и убеждало всех нас, что мы вот-вот войдем в царствие небесное – ну, или же в качестве временной альтернативы, построим рай земной. Но в реальности так не получилось. И за газ, похоже, придется платить все дороже и дороже – как бы при этом вице-премьер Владимир Семашко ни обнадеживал народ своей повышенной договороспособностью: мол, все будет замечательно, Россия просто обязана пойти на уступки! Вряд ли пойдет! А если пойдет на этот раз, то не пойдет в следующий.

Другое дело – нужно переходить с Россией на нормальные цивилизованные отношения. Ты – мне, я – тебе. Ты повышаешь цены на газ, я повышаю тарифы на транзит через страну, плати по полной и за наличие твоих военных баз на моей территории. Добрососедские отношения должны строиться открыто и только на взаимовыгодных условиях, без всякого прессинга с любой стороны. Тем более без всяких хитростей.

Александр Лукашенко заявил недавно, что мы не будем платить своим суверенитетом за газ. Это правильно. Но тогда нужно быть готовыми платить за суверенитет деньгами. Где их взять – над этим нужно ломать голову и правительству, и каждому из нас, рядовых граждан.

## Заўтра – свята! Шчасця Вам, мілыя!

Сяргей ЧЫГРЫН

### Мамы танцуюць вальс

У гэты святочны час
Музыка больш за словы.
Мамы танцуюць вальс
Лёгкі,
Пяшчотны,
Вясновы.
Людзі, спыніце ракеты,
Мір залежыць ад вас.
Радуецца планета –
Мамы танцуюць вальс.
Вальсам вясну адкрываюць,
Каб расцвітала яна.
Звонка аркестры іграюць.
Мамы,
Вальс
І вясна.
У залах прыціхлі дзеці...
Не патрабуюць час:
Сёння на ўсёй планеце
Мамы танцуюць вальс.
*г.Слонім.*






ДЫЯЛОГ

## Перамовы пратэстоўцаў са старшынёй Брэсцкага гарвыканкама Аляксандрам Рагачуком

У мінулую нядзелю некалькі соцень чалавек прайшлі па цэнтральных вуліцах Брэста з патрабаваннем адмены дэкрэта №3. Адзін з актывістаў заявіў: "Мы не хочам ні вайны, ні рэвалюцыі. Улады павінны вырашыць гэтае пытанне, а не пагаршаць сітуацыю".

Пратэстоўцаў запрасіў на размову ў актавую залу, якая змяшчае да 350 чалавек, старшыня гарвыканкама Аляксандр Рагачук. Адбыўся дыялог з часткай удзельнікаў акцыі, падчас якога ўзнімаліся пытанні не толькі пра дэкрэт, але і ў больш шырокім кантэксце – пра заробкі, пра стварэнне новых рабочых месцаў, пра пакаранні актывістаў і многае іншае.

Тая частка пратэстоўцаў, якая не змясцілася ў актавай зале, прайшла калонай ад плошчы Леніна да ЦУМа, дзе і закончылася акцыя.

ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА

## Андрэа Рыгоні наведае Мінск 23–24 сакавіка



Спецдакладчык па Беларусі Камісіі па палітычных пытаннях Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы **Андрэа Рыгоні** наведае Мінск 23–24 сакавіка.

Італьянскі дэпутат Андрэа Рыгоні ўпершыню быў прызначаны на пасаду спецдакладчыка па Беларусі ў лютым 2007-га і займаў яе па лістапад 2009 года. Паўторна ён быў прызначаны спецдакладчыкам у маі 2014 года ў сувязі з тым, што Андрэс Херкель, які займаў гэтую пасаду з чэрвеня 2011 года, не быў пераабраны парламентам Эстоніі ў склад нацыянальнай дэлегацыі ў ПАСЕ.

З мая 2014 года Рыгоні займаецца падрыхтоўкай даклада пра сітуацыю ў Беларусі. Не выключана, што ён прэзентуе яго на вясновай сесіі ПАСЕ ў Страсбургу.

БелаПАН.

БЛІЦ

## Што там, на фабрыках і заводах?

*«Народная Воля» звярнулася на некаторыя прадпрыемствы Віцебшчыны і пацікавілася эканамічным становішчам.*

**Вольга КУЛАКОЎСКАЯ, намеснік генеральнага дырэктара па эканоміцы ААТ «Глыбоцкі малочнакансервавы камбінат:**

– Эканамічная сітуацыя на прадпрыемстве добрая. Але калі б павялічыўся аб'ём сыравіны, то становішча было б яшчэ лепей. Зараз ідзе мадэрнізацыя, таму скарачэнняў не прадугледжваецца. Будзем уводзіць новыя працоўныя месцы. Праблем з выплатай зарплат у нас няма. Сярэдні заробак – каля 900 рублёў.

**Кацярына ЖОДЗЬ, начальнік аддзела кадраў ААТ «Аршанскі мясакансервавы камбінат»:**

– Палажэнне на камбінаце стабільнае. Вакансіі адкрываюцца па меры неабходнасці. На дадзены момант свабодных рабочых месцаў няма. Прадпрыемства працуе па паўнавартасным графіку.

**Наталля ЖОГАЛЕВА, намеснік дырэктара ААТ «Полацкі малочны камбінат»:**

– У нас усё добра. Запазычанасцяў па заробках ніколі не бывае. Прабачце, у мяне зараз ідзе нарада ў кабінеце, мне нязручна размаўляць.

**Андрэй КУЗЬМІН, намеснік генеральнага дырэктара па кадрах, ідэалагічнай рабоце і сацыяльных пытаннях ААТ «Полацк-Шкловалакно»:**

– Эканамічнае становішча на заводзе стабільнае. На сённяшні дзень адкрыты толькі тры вакансіі. На прадпрыемстве бесперапынная вытворчасць, адпаведна кадрамі мы забяспечаны. За студзень сярэдняя зарплата склала 790 рублёў.

**Мікалай ГАРДЗЕЕНКА, намеснік генеральнага дырэктара па кадрах і рэжыму ААТ «Віцебскія дываны»:**

– Масавага скарачэння на прадпрыемстве няма. У нас назіраецца сезоннасць: у верасні-кастрычніку прынялі 30 чалавек, але ў сакавіку прыйдзецца трохі скараціцца (на 8 чалавек), бо работнікаў бралі часова.

У цэлым абстаноўка на прадпрыемстве нармальная. Аб'ёму працы хапае: у мінулым годзе мы нават выпусцілі рэкордную колькасць дываноў. Сярэдні ўзровень зарплаты – каля 750 рублёў.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

СКАНДАЛ

## Саюз анёлаў і ворагаў

### З'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў, які адбыўся ў мінулую суботу, запомніцца не толькі дрэннай арганізацыяй…

Распачалося ўсё са спазненнем, хаця рэгістрацыю прызначылі аж на 8.30 раніцы! Здаецца, бліжэй да 11-й мала хто зразумеў, чаму з'езд адкрыў не старшыня Саюза пісьменнікаў **Барыс Пятровіч (Сачанка)**, а сябра Рады **Анатоль Вярцінскі.** Сачанка некаторы час увогуле прасядзеў на імправізаванай сцэне нібы госць, ад якога нічога не залежыць.

Замест таго каб абмеркаваць вострыя праблемы, пагаварыць пра будучыню, шмат часу згубілі на выслухоўванне дзяжурных кампліментаў і прывітанняў. Здаецца, нават за савецкім часам рэжысура падобных мерапрыемстваў была больш прадуманай.

Бадай, самай арганізаванай падчас з'езда была праца аховы, якой кіраваў памочнік старшыні **Усевалад Сцебурака**. *"Нават з міліцыяй прасцей дамовіцца, чым з вашай аховай!"* – прагучала, калі ў залу не пускалі паэта **Эдуарда Акуліна**.

У свой час Акулін з-за нейкага канфлікту са старшынёй саюза напісаў заяву аб прыпыненні сяброўства ў СБП і вызваленні яго ад абавязкаў намесніка старшыні на той тэрмін, пакуль саюзам будзе кіраваць Барыс Пятровіч. З-за чаго адбыўся сыр-бор, многія забыліся, а нехта і ўвогуле не ведаў, бо сам Акулін палічыў за лепшае бруд з хаты не выносіць. Таму адны, як **Алесь Бяляцкі**, даводзілі прысутным, што Акулін з арганізацыі не выходзіў, а другія, як адзін з кіраўнікоў Саюза **Алесь Пашкевіч**, падкрэслівалі, што паэт – "*сябра **не нашага** саюза*". Хаця, да ведама спадара Пашкевіча, нават на сайце СБП прозвішча Акуліна ёсць у спісе сябраў Рады і саюза.

Выслухаць абодвух герояў канфлікту чамусьці не захацелі. Але дазволілі Акуліну прысутнічаць. Праўда, праз невялікую паўзу Бяляцкі заявіў, што рэдактара часопіса "Верасень" усё роўна не пускаюць. Трэці раз пытанне пра Акуліна бліжэй да абеду вельмі прынцыпова паставіў сябра СБП **Рыгор Сітніца**. *"Дайце каманду сваёй ахове!"* – звярнуўся ён да Пятровіча. Толькі пасля гэтага старшыня саюза пайшоў разрульваць сітуацыю. Іншыя пісьменнікі (дарэчы, вядомыя і паважаныя) вырашылі прамаўчаць і не афішаваць сваё блізкае сяброўства з паэтам, якога невядома з якой нагоды запісалі калі не ў тэрарысты, дык у ворагі. Здаецца, Чаргінец з меншымі праблемамі трапіў бы ў гэтую залу!

У кулуарах шапталі, што Акулін прарываецца на з'езд, бо мае намер вылучыць сваю кандыдатуру на пасаду старшыні: *"Акуліну напярэдадні нават тэлефанавалі і пыталіся, ці будзе балатавацца, і ён жартам сказаў: падумаю яшчэ. І, каб чаго не выйшла, відаць, наўпрост вырашылі не пускаць"*.

Але выбары былі безальтэрнатыўнымі. Нават для адводу вачэй нікога не вылучылі!

Справаздачны даклад Барыс Пятровіч манатонна чытаў па паперчыне, не сачыў за рэакцыяй публікі, і таму бліжэй да сярэдзіны яго выступлення трэць залы бессаромна задрамала…

Вострых выступленняў на з'ездзе было мала. Калі нехта ўзнімаў актуальныя пытанні, як той жа **Радзім Гарэцкі**, які казаў пра занядбаны стан музеяў пісьменнікаў, галёрка адразу крычала: *"Давайце па сутнасці! Тут не канферэнцыя!"* Дык, прабачце, а дзе ж вашы праблемныя канферэнцыі? Хто пра іх увогуле чуў? І чаму на з'ездзе яшчэ раз не абвастрыць гэтыя пытанні?


Паміж Барысам Пятровічам (Сачанкам) і Эдуардам Акуліным прабегла чорная кошка.

Увогуле, хто за апошнія пяць гадоў нешта чуў пра гучныя ініцыятывы, заявы Саюза беларускіх пісьменнікаў? Атрымаць аператыўны каментарый ад кіраўніцтва СБП – цэлая праблема! Занятыя больш, чым міністры! Варацца ў сваім соку, не адгукаюцца на сучасныя праблемы, шмат пра што гавораць з просьбай "толькі не для друку". А чаго баяцца, калі і так страцілі ўсё, што мелі? Ручку і паперу, напэўна, адбіраць ніхто не будзе.

Добра, канешне, што СБП выдае некалькі часопісаў, падтрымлівае некаторых сталых пісьменнікаў. Ну а моладзь што? Дзе яна, вакол каго гуртуецца? На з'езд прыйшлі амаль адны пенсіянеры ці тыя, хто вось-вось да іх далучыцца. А хто прыйдзе ім на змену? Хто сёння заменіць Быкава, Караткевіча, Барадуліна, падставіць плячо Някляеву, у рэшце рэшт? Калі літаратурныя геніі сёння ёсць, чаму СБП не ставіць іх у прыклад? Чаму наогул на з'ездзе не было гаворкі пра пераемнасць? Хіба тут няма праблемы?

Самым палымяным было слова колішняга старшыні СБП **Уладзіміра Някляева**. Ад самага пачатку ён абурыўся выніковай рэзалюцыяй з'езда.

*"У час, калі перад Беларуссю стаіць пытанне быць ці не быць, СБП павінен цвёрда і ўцямна заявіць пра сваю грамадзянскую пазіцыю. З нас твораць здзек: не прызнаюць творчай арганізацыяй, у нас забралі будынак, дзе зараз атабарыліся "Белая Русь" і генеральскі саюз Чаргінца. Мы патрабуем вярнуць будынак! І калі ўлада пачала нешта гаварыць пра беларускасць, дык нам мала слоў. Зрабіце дзеянне, дайце нам доступ на радыё, тэлебачанне! Мы патрабуем роўных умоў у дзяржаўных выдавецтвах! Вось што павінна быць напісана ў рэзалюцыі!"*

Што за ўсе гэтыя гады СБП зрабіў для таго, каб вярнуць сваю маёмасць? Колькі зваротаў напісана ва ўладныя структуры? Колькі акцый зладжана? Ці прасцей рэзалюцыю скласці і забыцца пра маёмасць і недасяжныя выдавецтвы да наступнага з'езда?

Дарэчы, як заўважыў адзін з выступоўцаў: калі б Саюз мастакоў, які мае вялікую гаспадарку, падчас нейкіх прэзідэнцкіх выбараў здаў свой офіс пад штаб аднаго з апазіцыйных кандыдатаў, дык зараз таксама на вуліцы сядзеў бы. Хіба ў кандыдата на прэзідэнцкую пасаду не было грошай на асобны офіс, ці тагачаснае кіраўніцтва СБП было настолькі перакананае ў яго перамозе? Цікава, ці дапамагае сёння пісьменнікам той, дзеля каго Саюзу давялося ахвяраваць маёмасцю?

Не зразумела, чаму кіраўніцтва СБП не спрабуе выбудаваць хаця б дыпламатычныя адносіны з чыноўнікамі, як гэта робіць, напрыклад, той жа старшыня Саюза мастакоў **Рыгор Сітніца**? Ён не здымае з пінжака значок "Пагоні" і не пераходзць на рускую, калі ходзіць па міністэрскіх кабінетах. І не чакае, пакуль запросяць. Сам ідзе на розныя мерапрыемствы, знаёміцца, дамаўляецца, выбівае грошы. Можа, варта пераняць вопыт?

Уладзімір Някляеў прызнаўся, што па-рознаму ставіўся да СБП. У асноўным з-за пануючай у арганізацыі зайздрасці і нездаровай, падчас канфліктнай атмасферы.

*"Сорак гадоў таму, калі я ўступаў у Саюз пісьменнікаў, Рыгор Барадулін сказаў мне: «Віншую з уступленнем у саюз сяброў, кожны з якіх табе пажыццёвы вораг»,* – узгадаў Някляеў. – *Калі сутыкнуўся з палітыкай, то зразумеў, што пісьменнікі ў параўнанні з палітыкамі – проста анёлы з белымі крыламі..."*

Вось толькі анёлы наўрад ці цкуюць адзін аднаго і шукаюць ворагаў сярод сваіх жа.

**Марына КОКТЫШ**

**P.S.** *Старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў на наступныя пяць гадоў абраны **Барыс Пятровіч (Сачанка).***

Народная Воля http://www.nv-online.info 7 САКАВІКА 2017 г.

ПАЗІЦЫЯ



## Лябедзька заклікаў кіраўніка МУС не перашкаджаць удзелу апазіцыянераў у акцыях пратэсту

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатоль Лябедзька заклікаў міністра ўнутраных спраў Беларусі Ігара Шуневіча не загадваць сваім падначаленым перашкаджаць удзелу апазіцыянераў у акцыях пратэсту. Відэазварот да кіраўніка МУС, запісаны на фоне будынка міністэрства, Лябедзька размясціў 6 сакавіка на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку».

Анатоль Лябедзька, яго намеснік па АГП Мікалай Казлоў, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталь Рымашэўскі і старшыня аргкамітэта аб'яднання «Хрысціянска-дэмакратычны рух» Вольга Кавалькова былі затрыманы 5 сакавіка па дарозе з Мінска ў Брэст, куды яны накіроўваліся на «Марш недармаедаў». Супрацоўнікі міліцыі спынілі аўтамабіль з палітыкамі для праверкі на выездзе з Пінска. Лябедзька і Рымашэўскі паехалі ў Брэст на спадарожным транспарце, але зноў былі спынены, пасля чаго іх даставілі ў Бярозаўскі РАУС. Там да іх былі прад'яўлены прэтэнзіі ўжо не ў тым, што аўтамабіль быццам бы знаходзіцца ва ўгоне, а ў тым, што яны падазраюцца ў махлярстве. Палітыкаў адпусцілі з аддзялення пасля 14.00 без складання пратаколаў, але на акцыю яны ўжо не паспелі.

*«Я звяртаюся да вас, спадар міністр. У пятніцу мы едзем у Маладзечна, у суботу мы едзем у Пінск* (на запланаваныя акцыі супраць дэкрэта «аб дармаедах». – **БелаПАН.**). *Вы не давайце злачынных загадаў сваім супрацоўнікам. Хай у гэты час вашы супрацоўнікі зоймуцца добрай справай – дапамагаюць бабулям перайсці дарогу, дапамагаюць тым, у каго адбылася надзвычайная сітуацыя на дарозе. Арганізуйце трэнінг для начальнікаў РАУС, чаму нельга нападпітку садзіцца за руль. Змагайцеся са злачыннасцю. Шмат чаго можна зрабіць, а не змагацца з грамадзянамі»*, – зазначыў Лябедзька.

Старшыня АГП таксама паведаміў, што мае намер звярнуцца са скаргай на дзеянні міліцыянераў 5 сакавіка ў Генеральную пракуратуру.

**Аляксей АЛЯКСАНДРАЎ.**

БелаПАН.

РАЗВІТАННЕ

## На 101-м годзе жыцця памёр Васіль Шарапаў

Васіль Шарапаў нарадзіўся 25 жніўня 1916 года ў Сенненскім павеце. Быў старшынёй Мінскага гарвыканкама з 1954-га па 1968 год. Працаваў чыгуначнікам, быў першым сакратаром гаркама КПБ Мінска, міністрам будаўніцтва і эксплуатацыі аўтамабільных дарог БССР. Ганаровы грамадзянін Мінска. Аўтар дзвюх кніг мемуараў: «Нас час паставіць на свае месцы» і «Гартаючы жыцця старонкі».

Развітанне з Васілём Шарапавым пачнецца сёння, 7 сакавіка, у 11 гадзін у Доме літаратара на вуліцы Фрунзэ, 5.

ПО СЛУЧАЮ

## Короткая память

Накануне 100-летия белорусской милиции газета МВД «На страже» расспросила бывших министров, как они руководили ведомством, какие были успехи и неудачи.

Разыскали генералов – **Виктора Пискарева, Валентина Агольца, Юрия Сивакова, Анатолия Кулешова**. Даже нашли **Владимира Наумова**, который последние восемь лет редко приезжает в Беларусь и носа не кажет на милицейские мероприятия!

И красиво так все генералы рассказали о том, как служили, как с преступниками боролись. Заслушаться просто!

А ведь был еще один генерал, который с 28 июля 1994 года по 16 октября 1995-го возглавлял МВД. Но про **Юрия Захаренко** почему-то забыли. Все сделали вид, что не было такого министра. Просто вычеркнули эти почти полтора года из столетней истории белорусской милиции.

Хотя Захаренко был не пришлый, не чужой. Начинал карьеру простым следователем в Светлогорске, дослужился до начальника отдела, замначальника УВД Гомельского облисполкома, начальника Следственного комитета МВД, стал министром.

Даже патриархи советской и белорусской милиции не упомянули о Юрии Захаренко. Хотя бы вскользь, одним словом, как про того же **Мечислава Гриба**, который когда-то руководил Витебским УВД.

Кстати, генерал-лейтенанта милиции Мечислава Гриба, который имеет 36 календарных лет службы, не позвали на торжественные мероприятия по случаю 100-летия белорусской милиции. Даже на концерт приглашения не прислали! Говорят, просто вычеркнули из списков.

Некоторым генералам МВД страх, видимо, крепко отшиб память. Боятся, что отберут у них пенсию, звания, награды, форму. Врачи говорят, что амнезия на фоне какого-то потрясения вызывает защитную реакцию организма, который старается подальше спрятать эти воспоминания, стереть их из памяти. Вот и генералы по-настоящему верят, что не было среди них министра Захаренко. Иначе не промолчали бы. Помянули.

А у нынешнего министра внутренних дел **Игоря Шуневича**, похоже, такое же расстройство памяти, как у одного из героев фильма «Джентльмены удачи». Когда «тут помню – тут не помню». Про довоенную милицейскую форму, ту, которую носили палачи НКВД, он помнит все в деталях, вплоть до пуговиц! А про своего насильственно похищенного предшественника, о судьбе которого ничего не известно 18 лет, – нет.

Шуневич вообще ведет тонкую игру в эшелонах власти: не нагружает проблемами, а рапортует в основном об успехах ведомства, о том, что служить нужно не за деньги, а за идею. Такой подход нравится руководству страны. Недавно Шуневич удостоился президентской благодарности – за *«образцовое выполнение служебных обязанностей и достижение значительных результатов в оперативно-служебной деятельности»*. Хотя еще недавно общественность собирала подписи за его отставку.

**Вера ВИР.**

ОТ РЕДАКЦИИ

*Казалось бы, к белорусским властям и лично к А.Лукашенко Михаил Подоляк не может относиться позитивно. Его, профессионального журналиста, более 12 лет назад насильственно экстрадировали из Беларуси. С тех пор он живет в Киеве.*
*Но вот письмо в «Народную Волю», в котором абсолютно не просматривается какая бы то ни было обида на белорусское руководство. Наоборот, Михаил Подоляк вроде даже выражает ему свою поддержку. Точнее – подчеркивает, что сейчас, когда Беларусь прессингуется Россией, «Александр Лукашенко – главный защитник суверенитета страны», безальтернативный антикризисный менеджер по сохранению государственности. Соглашаться или не соглашаться с позицией М.Подоляка – решать читателям.*

МЫСЛИ ВСЛУХ

Михаил ПОДОЛЯК

## Миссионер... Лукашенко

Скажу прямо: из всей нынешней белорусской элиты – независимо от того, провластная она или оппозиционная, – в эти очень непростые для Беларуси дни наиболее близок к реальности... Александр Лукашенко. Эффективно сопротивляться агрессивной «Русской неоимперии» способен только он.

Парадокс? Да. Вспомните, как лет двадцать назад Александр Григорьевич смотрел на Бориса Ельцина. Не прочь он был занять кресло в Кремле.

Но жизнь повернулась так, что теперь А.Лукашенко – главный защитник суверенитета Беларуси и ему приходится изо всех сил отбиваться от «русского мира». Хотя, замечу, его представление о государственности не сильно отличается от представления, скажем, десятилетней давности. Упрощенно это «большое» (я бы даже сказал, монопольное, безобщественное) государство, которое тотально контролирует распределение любых ресурсов и удовлетворение базовых социальных запросов. А также предлагает классический размен «безопасность и стабильность в обмен на частичные свободы». Но риски совсем новые и радикальные он чувствует, несомненно, намного лучше других. Не потому, что имеет прямой доступ к развединформации. Как раз с развединформацией и ее аналитической обработкой в окружении Александра Григорьевича всегда были большие сложности. Нет. Все и сложнее, и проще.

Лукашенко настолько вжился в роль реального локального лидера, что он уже и есть естественная часть глобальной управленческой матрицы. Та самая часть, которая позволяет интуитивно оценивать риски много лучше оппонентов. Внутренних, внешних – неважно. В то время как белорусская оппозиция, неизменно достойная по духу, все-таки развивалась совершенно иначе. Автономно. В своеобразной гуманитарной нише. Больше рефлексируя по потерянному, чем вникая в окружающие перемены. Вот почему и сложился к сегодняшнему дню этот немыслимый, на первый взгляд, парадокс. Лукашенко, являясь абсолютным, прожженным экспертом по рискам, с которыми столкнулась юная белорусская государственность, становится безальтернативным антикризисным менеджером по сохранению этой государственности. На ближайшие три-четыре года. Или, может быть, чуть меньше. Тогда как классическая оппозиция, давно и безнадежно превратившись в созерцателя-теоретика (да, по вине самого Лукашенко), может только обеспечить работу своеобразной «аналитической лаборатории», предлагающей новые гуманитарные смыслы. С логистикой и с современным антикризисным менеджментом там просто некому справиться...

Ситуативное и кардинальное перерождение Лукашенко, как мне кажется, началось еще за несколько месяцев до февральского бегства украинского президента Януковича. Именно в те смутные дни Лукашенко остро почувствовал тотальную перемену в глобальной российской игре. Тогда же наметилось и вовсе немыслимое – кардинальная перемена роли и места самого Лукашенко. Из безусловного партнера «русского мира», до тех дней неагрессивного, но покупающего внешних партнеров (события в Грузии 2008 года тогда еще воспринимались сугубо как случайный эксцесс), он стал партнером «мира белорусского». Как вполне себе самодостаточного, самозависимого и исторически перспективного. Увы, обособить Беларусь, изолировать ее от неоимперских российских притязаний Лукашенко не мог. Ни тогда, ни сейчас. Слишком тесно завязано и переплетено все. Экономика, информация, кадры, культурное пространство, ежедневный человеческий взаимообмен, отсутствие границ – миллиарды видимых и невидимых кровеносных сосудов, по которым более 20 лет активно бегала общая кровь. Но однажды морозной и снежной февральской ночью Александр Григорьевич понял, что, во-первых, его личной России больше нет. А во-вторых, что именно теперь настало время бояться по-настоящему. И искать внутренних союзников. И договариваться со вчерашними не то чтобы врагами, но оппонентами, диссидентами. И рвать общие сосуды. Незаметно. Хитро. Надежно. И так, как может... только Лукашенко.

Маскируясь и максимально оттягивая неприятное объяснение. Никто, к сожалению, не сможет заменить Лукашенко в роли аккуратного и эффективного «могильщика» слишком сильной пророссийской близости. Он и только он знает, как и где можно надавить, а где стоит промолчать. Великое искусство мага-охранителя. Вот что такое Лукашенко сегодня. Не нравится? Но такова история. Она всегда любит менять местами черное и белое. И всегда делает это неожиданно и радикально. В чем же кроется нынешняя белорусская проблема? В современной России. В ее обновленных намерениях, мотивациях и желаниях. Само собой, при большом желании все еще можно проводить многочасовые дискуссии о доброте и благости российских «интересов/ценностей/мотивов». Но все это не имеет никакого практического смысла.

Нынешняя Россия – это классический пожиратель чужих надежд и пространств. Я не оцениваю это в категориях «плохо/хорошо». Это новая реальность. Это единственный способ выживания собственно русской цивилизации. Сугубо за счет пожирания прочих. РФ нынче продает на экспорт исключительно одну услугу – силовую экспансию, подавление, отъем чужих прав и ресурсов. Это краеугольный камень ИХ выживания. Хочет кто-то это понять или нет, неважно. У них нет больше концепции построения «либеральной империи», эффективного государства или высокотехнологических конкурентных производств – только «слияние и поглощение» по пограничному периметру. И надо ли удивляться тому, что ближайший союзник России – белорусский президент А.Лукашенко – тоже нынче сильно напуган? Несомненный факт. Более того, Александр Григорьевич, судя по некоторым его откровенным заявлениям, совсем не уверен в том, что у него есть достаточный «ресурс сопротивления». Но сопротивляться он точно будет. И уже сопротивляется. Хотя прекрасно знает о недостатках системы, им выпестованной.

Во-первых, почти вся управленческая элита, особенно военно-спецслужбистская, насквозь пропитана русским духом. Как там у классика? «Они возле него, пока он верное дитя кремлевских старцев». Во-вторых, экономика полностью запитана и зависима от российских кредитов и рынков сбыта. В-третьих, ближайшее окружение вполне может устроить ему «фатальное путешествие в один конец». Совершенно несложно. Все эти риски очевидны для президента. И он ищет им эффективные решения. Найдет ли? Несомненно. Так как это и есть залог его не только политического, но и физического выживания. Изящный исторический сюжет: Лукашенко как единственный адекватный и действенный гарант... белорусской независимости на ближайшие 3–4 года. Падет Александр Григорьевич – остальные быстро и без сопротивления вернутся в «русский мир». На условиях «русского мира».

Хотел бы я послушать эти аргументы/выводы от... себя же, скажем, в начале двухтысячных... А чтобы окончательно снять контраргументы, рекомендую внимательно послушать нарастающую антибелорусскую какофонию в российских медиа. Нечто подобное происходило с украинской повесткой. Правда, дольше, тоньше, по-иезуитски. Сейчас все хуже. Почему? Потому что уже получилось нарушить глобальные законы мира и не понести наказания. Потому что есть уже опыт. Потому что время ускоряется. Потому что кровь уже испробована. И, к сожалению, потому, что белорусы спокойнее, терпеливее, инертнее... У русских «активистов» есть несколько простых, но действенных сценариев поглощения для Беларуси. В них, конечно, нет ума и логики. Но разве была логика в прямой аннексии Крыма? Ведь русские, прояви они хотя бы годичное терпение, вполне могли повторно купить украинскую элиту, дискредитировать ультрапатриотов и на волне тотального разочарования получить марионеточную «Украину 3.0». Но нынче Москва живет совсем иными сказками. А потому у команды В.В.Путина есть три отличных сценария для Беларуси.

Первый (безумно привлекательный для неоимперских настроений) – бесшумный и информационно разогретый «крымский сценарий». Несколько дней достаточно, чтобы реализовать при помощи «гибридных зеленых человечков» очередной «Беларусьнаш!». Второй – условно-узбекский (или, если хотите, туркменский) вариант. Когда внезапно случается «смерть по естественным причинам». И делается это под заранее определенного «преемника» (система должна сохраниться) и с неформальным «домашним арестом» всех членов семьи. Третий – оставить все, как есть сегодня, но сильно (лично) поджать Александра Григорьевича неформальными экономическими санкциями.

Что, на мой взгляд, надо сделать самому Лукашенко? Провести скрытый аудит ближайшего окружения: коммуникации, ближний круг, намерения, мотивации, где хранят деньги, куда ездят по выходным… И определиться с реальными союзниками. И, может быть, организовать доверительный диалог внутри элиты. С оппозицией в том числе. На своих, разумеется, условиях. Поначалу больше рассказывая и убеждая. А потом, когда у всех схлынут накопившиеся обиды/эмоции, послушать друг друга, передоговориться. Может быть, выйти на новый социальный договор – со взаимными уступками... Только так – через тяжелый, сложный, многодневный диалог – и можно будет вернуться к идее закрепления «белорусской государственности» как несомненного уже исторического феномена. Хочет того «новый русский мир» или не хочет...

ЧУЛІ?

## У Мінску пройдуць Дні франкафоніі

*З 8 па 29 сакавіка ў Мінску пройдуць Дні франкафоніі, паведамляе прэс-служба Пасольства Францыі ў Беларусі.*

*«Кожны год вясной мільёны франкафонаў усяго свету адзначаюць свята французскай мовы,* – гаворыцца ў паведамленні дыпмісіі. – *Мерапрыемствы, арганізаваныя ў межах франкафоніі і прымеркаваныя да 20 сакавіка, Міжнароднага дня франкафоніі, скіраваны на распаўсюджванне ва ўсім свеце французскай мовы і франкафонных культур».*

Сёлета Пасольства Францыі прапануе мінчанам розныя мерапрыемствы, прысвечаныя гастраноміі, тэатру, музыцы, гісторыі і кіно. Так, з канцэртам выступіць французскі гурт «Карпат», пройдзе паказ кароткаметражных фільмаў у межах праекта Kinoport, рэтраспектыва французскіх фільмаў у рамках праекта Cinemascope, чытанне казак і іншыя мерапрыемствы.

Дні франкафоніі арганізаваны Пасольствам Францыі ў Беларусі пры падтрымцы канцэртнага агенцтва «Эквілібрыум АРТС», праекта Cinemascope, Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.

**Таццяна КАРАВЯНКОВА.**

БелаПАН.

ЧУЛІ?

## Беларускія абразы затрымаюцца ў Іспаніі да канца сакавіка

Выстава абразоў XVII–XVIII стагоддзяў з Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, якая вось ужо два з паловай месяцы экспануецца ў старажытным горадзе Таледа, застаецца ў Іспаніі. На просьбу дырэктара Дома-музея Эль Грэка дзейнасць беларускай выставы падоўжана яшчэ на два тыдні, да канца сакавіка. Можна было б пакінуць абразы і на большы тэрмін, лічыць дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў, але заканчваецца тэрмін страхоўкі. Дарэчы, яе кошт для 12 праваслаўных абразоў, якія прыехалі з Мінска ў Таледа, – 30 мільёнаў долараў.

На сённяшні дзень выставу беларускіх абразоў наведалі прыкладна 400 тысяч чалавек.

**Вікторыя ДРОЗД.**



Народная Воля http://www.nv-online.info 7 САКАВІКА 2017 г.

ДИАГНОЗ

## Кафедра медуниверситета потеряла свой статус

*С таким заявлением выступил доктор медицинских наук, профессор кафедры детской хирургии Минского медуниверситета, главный редактор журнала «Здравоохранение» профессор Юрий Абаев.*

Юрий Кафарович известен тем, что публично говорит о болевых точках белорусской медицины. Вот и недавно, рассуждая о проблеме частных жалоб пациентов на врачей, Юрий Абаев раскритиковал вузовскую подготовку студентов-медиков.

Профессор убежден: белорусским врачам не хватает навыков общения с пациентами, а *«доброжелательная сдержанность, терпеливое выслушивание жалоб и обдуманность каждого слова имеют не меньшее значение, чем медикаментозное лечение»*. Однако именно этому, по мнению Абаева, будущих медиков в белорусских вузах практически не учат.

*«Учеба в медицинском вузе становится все более технологичной, однако подготовить врача нельзя, применяя даже самые совершенные методы формализации учебного процесса. В современный век тестов особое значение имеет обучение медицине в палатах»*, – замечает профессор Абаев. Но сегодня складывается такая ситуация, что в клиниках студентов видеть не хотят.

*«Причина заключается в том, что кафедра потеряла свой статус, который имела прежде*, – считает доктор. – *Былой авторитет упал, отношения с клинической базой оставляют желать лучшего, сотрудникам кафедры запрещают участвовать в лечебном процессе, доступ к пациентам ограничен – чтобы получить разрешение, преподаватель должен договориться с лечащим врачом, заведующим отделением. И даже после этого может получить отказ, тогда занятие проводится в учебной комнате с разбором темы «на пальцах». Можно ли таким образом освоить навыки общения с пациентом?»*

К слову, в прошлом году в 50 процентах случаев пациенты в своих обращениях в Минздрав жаловались не на плохо организованную или некачественно оказанную медицинскую помощь, а на неумение врача вести диалог с пациентом.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ПАЛІТКУХНЯ

## Што робяць анархісты на «маршах недармаедаў» ?

*У акцыях пратэсту ў розных гарадах краіны бяруць актыўны ўдзел і прадстаўнікі анархісцкага руху.*

Як правіла, анархісты прыходзяць на мерапрыемствы са сваімі сцягамі і лозунгамі, нярэдка твары яны закрываюць чорнымі хусткамі.

Дарэчы, учора ў судзе Ленінскага раёна Брэста разглядаліся адразу пяць адміністрацыйных спраў затрыманых у мінулыя выхадныя прадстаўнікоў анархісцкага руху, якія бралі актыўны ўдзел у "Маршы недармаедаў". Яны былі затрыманы пасля заканчэння акцыі на сваіх кватэрах.

*"Беларускія анархісты не належаць да адзінай арганізацыі ці структуры, хутчэй, гэта кангламерат розных ініцыятыў і арганізацый*, – на ўмовах ананімнасці распавёў "Народнай Волі" адзін з сяброў анархісцкага руху. – *Але гэта не замінае нам арганізоўвацца для публічных мерапрыемстваў. Дарэчы, адзінага лідара ў анархістаў Беларусі няма. Па-першае, любое правадырства супярэчыць нашым прынцыпам. Па-другое, такая структура будзе вельмі ўразлівая для рэпрэсій. Дастаткова ліквідаваць лідара, і рух, як кажуць, пасыплецца. Замест пошуку лідараў мы культывуем у сваім асяроддзі ініцыятыўнасць і самастойнасць кожнага сябра".*

Якое дачыненне маюць анархісты да тэмы "дармаедаў"?

*"Самае непасрэднае, бо нашай асноўнай справай заўсёды было адстойванне правоў працоўных і барацьба з усялякім прыгнётам*, – дадае наш суразмоўца. – *Анархісцкі рух лічыць сваёй сацыяльнай базай усіх тых, хто не мае ўлады ў грамадстве, хто жыве са сваёй працы: студэнтаў, беспрацоўных, навучэнцаў, пенсіянераў. «Дармаеды» якраз і адносяцца ў сваёй большасці да людзей, якія працуюць неафіцыйна ці страцілі працу. Да таго ж, улічваючы, што ў краіне эканамічны крызіс, многія анархісты і самі сталі «дармаедамі» – іх наўпрост закрануў гэты закон".*

Паводле слоў прадстаўніка руху, да анархістаў заўсёды асаблівая ўвага міліцыі.

*"Па-першае, праваахоўнікі не так шмат ведаюць пра нас, таму што добра працуе ўласная сістэма бяспекі, якая зніжае магчымасць уцечкі інфармацыі да сілавікоў*, – кажа ён. – *У звычайныя часы, калі няма пратэстаў, анархісты – гэта непублічны рух. Па-другое, нас немагчыма кантраляваць, бо няма нейкіх лідараў, фінансавых патокаў і агульных месцаў збору, дзе анархістаў можна было б «пасвіць» і трымаць пад наглядам. І, па-трэцяе, напэўна, міліцыя бачыць у нас пагрозу. Асабліва ў сувязі з тым, што пратэстоўцы ў апошні час усё больш пазітыўна на нас рэагуюць".*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ЧУЛІ?

## Квіткі не падаражэюць

Міністр транспарту і камунікацый **Анатоль Сівак** заявіў, што тарыфы на пасажырскія перавозкі ў Беларусі ў 2017 годзе павышаць не плануецца.

*«Эканамічная аснова гэтай заявы сыходзіць з таго, што паводле вынікаў мінулага года акупнасць пасажырскіх перавозак склала 64,2%. Сёння параметры бюджэту закладзены пад акупнасць 65%, гэта значыць нам трэба зменшыць расходы дзесьці на 0,8%. Пры гэтым запланаваны вялікі комплекс мерапрыемстваў па павышэнні эфектыўнасці – яны якраз і скіраваны на змяншэнне расходаў і зніжэнне сабекошту. Гэта і ляжыць у аснове павышэння ці непавышэння тарыфаў»*, – сказаў Анатоль Сівак.

Апошні раз тарыфы на праезд былі павышаны ў снежні мінулага года.

ОТКРОВЕННЫЙ РАЗГОВОР

## Аверьянов решил в очередной раз переждать грозу за границей…

### Корреспондент «Народной Воли» побеседовал с человеком, который хорошо знаком с белорусским олигархом, сбежавшим в чужие края.

**ИЗ ДОСЬЕ**

*Юрий **АВЕРЬЯНОВ.** Один из первых белорусских бизнесменов и долларовых миллионеров. Его основными активами являются компании «Ростэм» и «Торговый мир – «Кольцо».*

*Аверьянов, некоторое время поработавший в системе сельстроя, начинал с шабашки. Потом, в начале горбачевской оттепели, пытался найти себя в кооператорском движении – собирал серебро из отходов фотоателье, шил одежду, производил запчасти для автомобилей.*

*В 1991 году он с партнерами открыл первый рынок на стадионе «Динамо». В 1994 году запустил авторынок в Малиновке, на котором вырос рынок «Торговый мир – «Кольцо». Позже в Уручье на территории бывшей военной части начал работу Центральный строительный рынок.*

*С фамилией Аверьянова связаны такие брендовые ночные заведения в Минске, как «Макс-шоу», «Триклиний», ресторан «Русалочка» на Минском море, «Акрополь», «Блиндаж», «U-2», «Африка», «Мэдисон».*

*Структура «Ростэм» включает в себя Центральный рынок строительных материалов в столичном микрорайоне «Уручье», парк развлечений Dreamland и филиал «Агрофирма «Илья». «Торговый мир – «Кольцо» объединяет автомобильный и строительный рынки и торговый центр в столичном микрорайоне «Малиновка».*

*В 2002 году Аверьянов уже уезжал из Беларуси, когда против него и топ-менеджеров авторынка в Малиновке возбудили уголовное дело. Их обвиняли в вымогательстве денег у предпринимателей за право торговать на рынке. Шестеро сотрудников рынка получили тогда различные сроки, а Юрий Аверьянов был объявлен в розыск. Через два года, когда все утихло, он вернулся в страну.*

*В настоящее время ЗАО «Торговый мир – «Кольцо», и ЗАО «Ростэм» имеют большие долги перед банками. Речь идет не об одном десятке миллионов долларов. Несколько месяцев назад сам Юрий Аверьянов в очередной раз покинул страну. И не показывается…*

– Когда в начале 2000-х в отношении Ю.Аверьянова возбудили уголовное дело, выяснилось, что у предпринимателей авторынка брали наличные деньги, но не проводили их через кассу. Следователи вцепились в бизнесмена основательно, потому что свидетельские показания дали около тысячи опрошенных. Сам Аверьянов на время следствия укатил в Германию и был объявлен в международный розыск. Шестеро сотрудников рынка получили небольшие сроки, а олигарх наблюдал за развитием событий издалека. Оттуда прощупывал почву. Ходили слухи, что он обещал неплохо проспонсировать развитие белорусского хоккея, речь шла о суммах в десятки тысяч долларов в месяц. Не хочу проводить параллели, но тогда Федерацию хоккея Беларуси возглавлял министр внутренних дел Владимир Наумов… Через два года после своего бегства Аверьянов спокойно вернулся в страну. При дорасследовании дела его вины как будто не обнаружили, хотя за тюремной решеткой оставались сотрудники рынка.

**– Чем занимался бизнесмен все это время в Германии?**

– Снимал квартиру, позже получил там вид на жительство. Когда Аверьянов сбежал, его заинтересовал один бизнес-проект в Германии. Кажется, в городе Дахау он решил выкупить бывший советский военный городок и построить там что-то типа автомобильного рынка в Малиновке. Этот городок, по некоторой информации, продали Аверьянову за 300 тысяч евро. Естественно, местные власти за вклад в немецкую экономику решили отблагодарить инвестора – дали ему вид на жительство. И, когда в Беларуси снова над головой стали хмуро ходить тучи, он использовал этот момент, чтобы опять уехать в Германию.

**– Говорят, что в Беларуси бизнесмен любил жить с шиком…**

– Это точно! Вертолет себе купил, хотя никто не понимал – для чего? Куда на нем летать? В Вилейском районе за Аверьяновым закрепили подшефное сельское хозяйство, так он вроде туда летал. До поселка Илья от Минска – около 70 километров, а Аверьянов – на вертолете. В определенных кругах такому поведению дают меткое определение – понты. Позже, когда для компании наступили тяжелые времена, вертолет вроде бы продали казахам.

Была у Аверьянова и шикарная яхта на Минском море, каждое лето он любил там устраивать вечеринки для друзей. Купил себе престижные автомобили – «Астон Мартин», «Кадиллак»… У него было три машины, одна у жены, и две машины возили дочку и сына.

**– А еще я слышал, что он купил жене парикмахерскую…**

– Да, выкупил помещение на Немиге, построил там парикмахерскую для Татьяны и обустроил ее по высшему классу. Кстати, это вторая супруга Аверьянова, она раньше сама работала обычным парикмахером. Где-то встретил ее, приглянулась молодая девушка…

**– Не так давно «Народная Воля» сообщала, что Аверьянов собрался продавать свой шикарный коттедж под Минском…**

– Этот дом он построил в Крыжовке. До этого Аверьянов около полгода жил в Америке, в то время в Беларуси на авто среди покупателей был просто невероятный спрос. В месяц продавали по 10 тысяч машин. В США бизнесмен увидел энергосберегающий дом, который его, как говорят, поразил прямо в сердце. Поэтому, когда вернулся в Минск, почти сразу принялся за стройку коттеджа возле Минского моря по тому же проекту. Хотя так получилось, что стройкой пришлось в итоге заниматься жене, – Аверьянов вынужден был ожидать закрытия уголовного дела в Германии. В итоге те, кто принимал участие в стройке, образно говоря, еще и себе небольшие дома построили за средства на строительство коттеджа Аверьянова. Например, в бассейне положили итальянскую плитку. Заплатили за нее 70 тысяч долларов, но, когда обратились в фирму, выяснилось, что плитку продали за 35 тысяч, а остальную часть суммы положили себе в карман «помощники». Похожая ситуация произошла и тогда, когда устанавливали видеонаблюдение по периметру забора. Предоставили смету на 35 тысяч долларов, а оказалось, что цена вопроса – 9 тысяч. Одним словом, каждый тянул деньги в свою сторону. Жена Аверьянова в стройке особо не разбиралась, бизнесмен сидел за границей, а с деньгами проблем не было.

**– В былые времена автомобильный и строительный рынки, наверное, давали очень неплохую прибыль?**

– Безусловно. Особенно, когда люди неплохо зарабатывали, а в стране был автомобильный бум накануне повышения стоимости растаможки на автомобили из Европы. Авторынок имел в каком-то смысле монополию. Туда шли, чтобы купить машины, запчасти… Но время ведь не стоит на месте. Начался кризис. Изменились тенденции. Сейчас, например, в любом районе есть мини-автомагазины.

**– Когда в бизнес-империи Аверьянова начались первые проблемы?**

– Думаю, в 2014 году. Компания затеяла много авантюрных проектов, и под эти проекты в банках брала кредиты. Но берешь-то чужие деньги, а отдавать нужно свои. Когда начали строить аквапарк на Орловской, Аверьянову многие говорили: это глупость! Он отвечал так: "Я – бизнесмен, принимаю решения сам". Честно говоря, были даже подозрения, что эти проекты были обычным выманиванием кредитов у банков. Кризис только усугубил ситуацию, у Аверьянова начались серьезные проблемы, когда банки стали требовать деньги…

**– Он только банкам должен или и частным лицам?**

– Насколько мне известно, он немало задолжал и частным лицам. Теперь они никак не могут вернуть свои деньги, не говоря о каких-то процентах. Он всячески уходит от контактов…

**– И чем, думаете, все это может закончиться?**

– Есть информация, что многие активы Аверьянов разными способами сбрасывает на подставных лиц. Делается это, по-видимому, с одной целью: в один момент он объявит, что его компания банкрот, а с банкрота, как говорится, взятки гладки. На сей счет в стране есть компетентные органы, которые обязаны упредить такое развитие событий...

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

За забором – дворец Ю.Аверьянова, который он продает.

РАКУРС

## Ёсць мільён долараў – купляй хату!

У Мінску прадаюцца два катэджы: кожны з іх – мільён долараў. Адметна тое, што адразу засяліцца ў элітныя апартаменты пакупнік не зможа – катэджы прадаюцца без унутранага і знешняга аздаблення.

Аб'ява аб продажы двух катэджаў па вуліцы Язмінавай непадалёку ад Нацыянальнай бібліятэкі з'явілася яшчэ ў мінулым годзе. У ёй пазначана, што выстаўлены на продаж два апошнія дамы прэстыжнага пасёлка. Уся вуліца Язмінавая – гэта 14 камфартабельных катэджаў. Астатнія 12 дамоў гаспадароў ужо маюць. Месца – элітнае. Побач і метро, і лес, і Сляпянскі водны канал. Тэрыторыя пасёлка – 2,75 гектара. Пасёлак знаходзіцца пад кругласутачнай аховай. Сапраўды, пахваліцца такім унікальным месцазнаходжаннем могуць толькі адзінкавыя катэджныя забудовы Мінска.

Дарэчы, выстаўленыя зараз на продаж катэджы маюць плошчу 640 і 789 квадратных метраў.

Тэлефаную ў агенцтва нерухомасці «Мегаполіс», якое займаецца продажам элітнага жылля. Прадстаўляюся патэнцыяльным пакупніком і распытваю ўсю інфармацыю аб прадаваемых катэджах.

Паводле слоў агента, улічваючы, што прадаецца не проста катэдж, а жыллё прэміум-класа, можна сказаць, што інтарэс і попыт ёсць. *«Два разы на месяц ездзім паказваць катэджы*, – расказваюць у агенцтве. – *Цікавяцца і беларусы, і замежнікі. Дарэчы, уладальнікамі двух з 12 прададзеных дамоў з'яўляюцца замежныя грамадзяне».* Купіць дом па дамоўленасці можна і ў растэрміноўку, у агенцтве ідуць насустрач, разумеючы, якую суму трэба адразу ўнесці. Што тычыцца аздаблення, то фірма-забудоўшчык прапануе паслугі і дызайнера, і будаўнічай брыгады, але, зразумела, за дадатковую плату. Катэджы, паводле слоў агента, здаюцца без унутранага і знешняга чыставога аздаблення выключна дзеля таго, каб уладальнікі маглі самастойна, на свой густ афарміць дом у тых колерах і інтэр'ерах, у якіх пажадаюць.

– *А хто суседзі?* – цікаўлюся ў супрацоўніцы агенцтва.

– *Людзі самага высокага ўзроўню. Хто канкрэтна, сказаць не магу – гэта канфідэнцыяльная інфармацыя.*

...Варта адзначыць, што два катэджы па вуліцы Язмінавай – не адзіная нерухомасць, якая прадаецца сёння ў Мінску за мільён долараў. Непадалёк, на вуліцы Ваньковіча, за такую ж суму выстаўлены на продаж таўнхаус агульнай плошчай 334 квадратныя метры. Шасціпакаёвая кватэра мае такі ж самы выгляд на Сляпянскі водны канал, як і элітныя дамы на Язмінавай. Прычым размешчаны таўнхаус на першай берагавой лініі. Купіўшы гэтую кватэру, у яе можна адразу ж і засяляцца. Яна не толькі аздоблена, але і абстаўлена сучаснай мэбляй і ўкамплектавана бытавой тэхнікай.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

У такім выглядзе катэдж каштуе 1 мільён долараў.

А так ён можа выглядаць пасля аздаблення…

ДУХОЎНЫ СКАРБ

*2017 год асаблівы ў нашай гісторыі. 500 гадоў таму, 6 жніўня 1517 года, у чэшскай Празе вялікі беларускі асветнік Францішак Скарына выпусціў у свет першую Біблію на роднай мове і фактычна заснаваў усходнееўрапейскае кнігадрукаванне. Біблію Скарыны чыталі не толькі ў Вялікім Княстве Літоўскім, але і ў шмат якіх іншых краінах свету. Пачэсны патрыятычны абавязак беларускага грамадства – годна сустрэць гэтую эпахальную ў нашай гісторыі дату.*

*Таму мы, вялікая група навукоўцаў, дзеячаў мастацтва, культуры і літаратуры, у маі мінулага года выступілі з канкрэтнымі прапановамі па ўшанаванні Францішка Скарыны і накіравалі звароты ў адпаведныя дзяржаўныя інстанцыі. Сярод тых спраў найважнейшыя – стварэнне помнікаў Францішку Скарыну ў Вільнюсе і Кракаве, наданне Нацыянальнаму аэрапорту Мінск імя нашага славутага першадрукара, а таксама вяртанне імя Скарыны галоўнаму праспекту сталіцы. У выніку мы атрымалі адпіскі, нашы прапановы ў большасці адхілены (ці то "немэтазгодна", ці то "няма грошай", ці "ўсё ўжо зроблена"). Некаторыя начальнікі на наш ліст наогул не адказалі.*

*Такое стаўленне да грамадскай ініцыятывы, на нашу думку, сведчыць пра незацікаўленасць чынавенства ў паказе перад усім светам маштабнасці асобы Францішка Скарыны. Вядома, афіцыйна ўжо зроблены пэўныя захады: створаны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання на чале з міністрамі інфармацыі і культуры, ёсць, мабыць, нейкі план мерапрыемстваў. Аднак безвыніковае сямімесячнае ліставанне прывяло нас да думкі, што нельга спадзявацца толькі на дзяржаўных функцыянераў. Трэба шукаць іншыя магчымасці адзначыць гэтую вялікую дату. Таму звяртаемся да беларускага грамадства, спадзеючыся на ягоную зацікаўленасць у развіцці айчыннай культуры і яе годнай рэпрэзентацыі перад усім светам.*



# ЗВАРОТ

## да грамадскіх арганізацый, устаноў і прадпрыемстваў Беларусі, бізнесменаў і патэнцыяльных фундатараў, да ўсіх суайчыннікаў у Беларусі і за мяжой

Кніга для беларусаў, як і для кожнага народа, мела і мае вялікае цывілізацыйнае значэнне. Больш за 1000 гадоў яна захоўвае мудрасць былых пакаленняў і гуртуе нас як нацыю. Палову гэтага часу кніга нашых старажытных княстваў (Полацкага, Тураўскага, Смаленскага) і Вялікага Княства Літоўскага была рукапіснай. Яна стала вялікім здабыткам духоўнай культуры нашага народа, вядомым і шанаваным ва ўсім свеце.

6 жніўня 1517 года Францішак Скарына адгарнуў новую старонку нашай культуры, зрабіўшы кнігу даступнай шырокаму колу грамадства ("паспалітаму люду"). У чэшскай Празе ён надрукаваў першую Біблію на роднай мове. Гэта быца чацвёртая ў свеце друкаваная Біблія на жывой мове народа (пасля нямецкай, італьянскай і чэшскай). Выданні асветніка былі вяршыняй кнігадруку пачатку XVI стагоддзя і паставілі Вялікае Княства Літоўскае ў шэраг развітых краін тагачаснага свету.

З павагі да велізарнага ўкладу Францішка Скарыны ў справу айчыннага кнігадруку напярэдадні 500-гадовага юбілею беларускай Бібліі Грамадскі аргкамітэт па правядзенні свята прапануе актывізаваць грамадскую дзейнасць у гэтым накірунку. Вось толькі некаторыя агульнанацыянальныя справы, якія мы можам зрабіць разам:

1. Працягнуць пошукі месца пахавання Францішка Скарыны ў Чэхіі.
2. Пашырыць вядомасць свята праз размяшчэнне сімволікі 500-годдзя беларускага кнігадрукавання на бігбордах, расцяжках, у грамадскім транспарце (аўтобусах, тралейбусах, трамваях, цягніках метрапалітэна).
3. Арганізаваць тэматычныя выставы прафесійных мастакоў.
4. Правесці конкурс на лепшы літаратурны, мастацкі і музычны твор, прысвечаны Францішку Скарыну.
5. Па творах Францішка Скарыны, адаптаваных паводле сучаснага правапісу, зладзіць агульнанацыянальную дыктоўку.
6. Пачаць стварэнне мемарыяльнага шляху "Дарога Скарыны" з Полацка ў Вільнюс, пазначаючы яго памятнымі камянямі праз кожную "літоўскую" мілю (роўную прыблізна 15 км).
7. Распрацаваць турыстычны маршрут "Дарога Скарыны" ад Полацка да Вільнюса. Адкрыццё адзначыць міжнародным велапрабегам па гэтым маршруце.
8. Распрацаваць турыстычныя маршруты з Мінска да Кракава, Прагі, Падуі і Познані.
9. Прымеркаваць да 500-годдзя беларускага кнігадруку штогадовы Мінскі паўмарафон і накіраваць сабраныя падчас яго грашовыя сродкі на рэалізацыю канкрэтных культурных праектаў. Правесці аналагічныя забегі таксама па ўсёй краіне.
10. Прысвяціць нашаму вялікаму суайчынніку рыцарскі фэст і байкерскі злёт, наладзіўшы іх на Скарынавай радзіме – у Полацку.
11. Арганізаваць сямейныя чытанні і гутаркі з дзецьмі, прысвечаныя ўкладу Францішка Скарыны ў развіццё беларускай культуры.
12. У мастацкіх школах і студыях выяўленчага мастацтва па ўсёй краіне правесці конкурсы на тэму "Францішак Скарына і яго час", паводле іх вынікаў зладзіць выставы.
13. Арганізаваць праз СМІ конкурсы сярод дзяцей і падлеткаў на лепшы верш пра Францішка Скарыну або нашу старадаўнюю дзяржаву – Вялікае Княства Літоўскае.
14. Прапанаваць настаўнікам для класнай гадзіны тэмы, прысвечаныя гісторыі беларускай кнігі і ўкладу Францішка Скарыны ў яе развіццё.
15. Правесці ў розных навучальных установах віктарыны, прысвечаныя гісторыі беларускай кнігі.
16. Зладзіць тэматычныя канферэнцыі, семінары, конкурсы навуковых работ, заахвочваючы школьнікаў і студэнтаў да навуковай дзейнасці ў сферы гісторыі і кнігазнаўства.
17. Выпусціць разнастайную сувенірную і іншую дробную прадукцыю (вымпелы, значкі, кніжныя закладкі, плакаты, кубкі, майкі, пакеты і г.д.) з выявамі і эмблематыкай, адпаведнымі юбілею; разаслаць святочныя паштоўкі да Дня друку ў школы і бібліятэкі.
18. Арганізаваць 6 жніўня ў Полацку і Мінску парад паветраных шароў з адпаведнымі святу выявамі і сімволікай.
19. Ва ўсіх хрысціянскіх установах адзначыць 6 жніўня яшчэ і як дзень пачатку выдання Бібліі на нашай роднай мове. Цягам года ў цэрквах, касцёлах, рэфармацкіх храмах правесці тэматычныя мерапрыемствы.
20. Праявіць іншыя ініцыятывы дзеля папулярызацыі імя і творчасці Скарыны, а таксама дасягненняў нашай культуры Залатога веку ў цэлым.
21. Як мага шырэй асвятляць ва ўсіх даступных СМІ юбілейныя імпрэзы, падкрэсліваючы веліч асобы Скарыны, яе еўрапейскі маштаб.

Галоўная ж прапанова – 500-годдзе заснавання беларускага кнігадрукавання адсвяткаваць усёй краінай 6 жніўня 2017 года. Гэтае свята павінна прыйсці ў кожны дом. Варта адзначыць яго віншаваннямі, сямейнымі ўрачыстасцямі, сяброўскімі імпрэзамі. Усе мы, незалежна ад таго, выпускаем кнігі ці чытаем іх, мусім святкаваць Дзень друку 6 жніўня, не чакаючы афіцыйнага прызнання гэтага свята. Права на гэта даў нам Францішак Скарына.

Тым не менш, разумеючы, што беларускія чыноўнікі павінны дзейнічаць у інтарэсах грамадства, трэба працягваць дыялог з дзяржаўнымі ўстановамі, звяртацца з прапановамі наўпрост да службоўцаў, каб яны таксама праяўлялі ініцыятыву з адказнасцю перад будучымі пакаленнямі.

Годным чынам, у штодзённай працы на ніве культуры і адукацыі правядзём Год Францішка Скарыны ў Беларусі і свеце з надзеяй на лепшую і трывалую будучыню!

**Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук,**
**Арсень ЛІС, доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР,**
**Анатоль ВЯРЦІНСКІ, паэт, заслужаны дзеяч культуры, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР,**
**Мікола КУПАВА, сябра Беларускага саюза мастакоў,**
**Ганна ЗАПАРТЫКА, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва,**
**Аляксандр ЛЯВОНЧЫК, лаўрэат рэспубліканскага конкурсу,**
**Мікола САВІЦКІ, прафесар, пенсіянер,**
**Ірына БАГДАНОВІЧ, дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук,**
**Зміцер САНЬКО, галоўны рэдактар выдавецтва "Тэхналогія".**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Хто ж купляе з зарплаты залатыя лапаты?

*У час вобшуку ў доме былога намесніка генпракурора Украіны праваахоўныя органы знайшлі залатую лапату.*

Нагроб нямала пракурор
З суседняй братняй Украіны.
І цяжка выказаць дакор,
Бо ён там гэткі не адзіны.
Напрыклад, прэзідэнт былы.
Дагэтуль людзі шлюць
праклёны
(Хоць толк
з праклёнаў тых малы),
Бо залатыя меў батоны.
Аднак не меншы апетыт
Быў і ў былога пракурора
(Цяпер ён мае бледны від
І баланду хлябтацьме скора.)
Сумеў закона служка той
Разжыцца, будучы пры ўладзе,
Лапатай цалкам залатой.
За гэта тарбахват і сядзе.
Каб апраўдацца, ён нясе
Лухту наконт тае лапаты:
Маўляў, адкладваў пакрысе,
Адшчыкваў ад сваёй зарплаты.
Душою крывіць пракурор.
Як добра пашукаць, дарэчы,
Яшчэ і з плаціны сахор,
Напэўна, знойдзецца
ў падпечы…

* * *

У нас чыноўнікаў – гурма.
Ім горш, бадай,
жывецца крышку,
І залатых лапат няма.
Ды кожны мае хоць
бы лыжку…

## П'янка без закускі – звычай беларускі

*У Брэсце п'яны кіроўца з'еў пратакол ДАІ.*

Віхляла на шашы машына,
Нібы на палубе матрос.
І памыліцца немагчыма:
Кіруе за рулём "насос".
Даішнік палкай паласатай
Пачаў махаць, як ліхтаром:
Калі не спыніш супастата,
Язда не скончыцца дабром.
Кіроўца, вылупіўшы вочы,
Вільнуў дадаткам два разы
І паслухмяна ўсё-ткі збочыў,
Націснуўшы на тармазы.
Сказаўшы пару слоў салёна,
Ён высунуў з акенца твар,
На волю выпусціў з салона
Густы і свежы перагар.
Не трэба й дзьмухаць
для праверкі
Пры хмары "водару" такой…
Даішнік разгарнуў паперкі
І стаў выпісваць пратакол.
Спярша вачыма лыпаў п'яна
Кіроўца, на ражон не лез
І не звягаў…
Ды нечакана
Гвалтоўны здарыўся эксцэс.
Кіроўца з лоўкасцю пантэры
Рвануўся раптам напярод
І вырваў з рук лісток паперы,
Пачаў піхаць, як кляп, у рот.
Да хрусту разяўляў ён зяпу,
Рабіў натужныя каўткі
І рады даў нарэшце кляпу –
У страўнік прапіхнуў такі.
І даць не мог даішнік веры:
– Звіхнуўся? Штосьці
з галавой?
Ты з'еў службовы
ліст паперы!
Чым растлумачыць
выбрык твой?
Кіроўца лепш за адваката
На ўчынак свой
праліў святло:
– Гарэлкі выпіў я багата,
Але закускі не было…

ПЫТАННЕ – АДКАЗ

## Ці будуць хадзіць кантралёры без формы?

***"Чуў, што з 1 сакавіка гэтага года сталічныя кантралёры будуць лавіць "зайцаў" у гарадскім транспарце без спецыяльнай формы. Пакуль я ў транспарце з такім не сутыкаўся. Можа, гэту норму адмянілі, ці яна ўсё ж такі ўжо дзейнічае?"***

**Васіль МАЖЭЙКА, Мінск.**

У мінулым месяцы начальнік кантрольна-рэвізійнай службы ДП "Мінсктранс" **Юрый Давідовіч** і на самай справе паведаміў, што з 1 сакавіка кантралёры будуць працаваць у трамваях без фірмовай экіпіроўкі, каб быць менш прыкметнымі.

Паводле яго слоў, спачатку такі эксперымент планавалі правесці на трамвайных маршрутах, а затым перанесці яго і на тралейбусныя.

Праўда, пазней высветлілася, што практычна рэалізаваць гэтую ініцыятыву дастаткова складана. Той жа Юрый Давідовіч распавёў, што з адменай экіпіроўкі ўзніклі юрыдычныя складанасці.

Так што пакуль "зайцы" могуць спаць спакойна.

## Дзе самыя высокія заробкі?

***"У якіх сферах дзейнасці ў Беларусі больш за ўсё зарабляюць?"***

**Валянцін АСТРЭЙКА, г.Маладзечна.**

Як паведаміў першы намеснік старшыні камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне – галоўны дзяржаўны эксперт Мінска па ўмовах працы **Павел Кунашкевіч,** сярэдні заробак у Мінску вышэйшы, чым сярэдні ў Беларусі ў 1,5 раза.

Паводле яго слоў, намінальны сярэднямесячны заробак за студзень склаў 1027 рублёў. Гэта на 42,6% вышэй, чым сярэдні заробак па краіне. У параўнанні са студзенем 2016 года намінальны сярэднямесячны заробак павялічыўся на 7,9%.

Найбольшыя заробкі ў сталіцы маюць работнікі сферы інфармацыі і сувязі, фінансавай, страхавой, навукова-тэхнічнай дзейнасці. У бюджэтных арганізацыях заробкі трымаюцца на ўзроўні 693 рублі.

МЫСЛИ ВСЛУХ

## Повышать зарплату надо только тем врачам, которые ее зарабатывают!




Много в последнее время говорится о том, что возникла необходимость организации страховой медицины, увеличения перечня платных услуг в здравоохранении, чтобы не было ложных вызовов «скорой», чтобы в поликлинику человек шел, когда действительно есть проблема со здоровьем. Но фактически платная медицина уже внедряется. Сегодня в поликлинике можно платно сдать анализы, пройти обследование и т.д. По логике, деньги, поступающие в кассу учреждения, должны направляться на повышение зарплаты врачам. Но, на мой взгляд, повышать зарплату надо только тем докторам, которые ее действительно зарабатывают.

Представьте себе такую картину: рядом два кабинета терапевтов. К одному не пробиться – очередь, а ко второму – свободно. Получается, один врач отдыхает, а второй задыхается от потока пациентов, но зарплата у них одинаковая. Или талон на прием к одному узкому специалисту не достать, очередь на несколько дней, а ко второму – такого же профиля – свободно. Почему нельзя внедрить в практику такую оптимальную систему оплаты труда врачам, чтобы это действительно была оплата, а не уравниловка?

Тогда, мне кажется, и у врачей был бы стимул работать профессионально, постоянно повышать свой уровень и знания, и мы, пациенты, были бы в выигрыше.

**С.В.ПИСАРЕВ.**
*г.Солигорск.*

ГУМАРЭСКА

# Джаконда з Калачкоў

Маня Сакалок накупляла ў райцэнтраўскіх магазінах усяго ўсякага і паволі плялася на аўтастанцыю. Рухалася асцярожна, як разведчык у стане ворага, бо тратуар блішчэў ад галалёду, нібы салам намазаны.

– Каб на вас не ведаю што! – бубніла сабе пад нос, кленучы вялікіх і малых начальнікаў. – Пасядуць у машыны і едуць, а ты тут хоць раздзярыся. Няма таго, каб пасыпаць пяском. Пяску ж у нас нібыта хапае, яго не трэба з Расіі вазіць, як нафту ці газ.

Раптам, адарваўшы вочы ад галалёду, убачыла, што ёй насустрач ідзе кабета сярэдняга веку і гэтак усміхаецца, нібы тая дзеўка, што на карціне ў дачкі Нюсі, якая ў Гродне жыве. Карціна вісіць у вялікім пакоі.

– А што гэта за яна? – спыталася аднойчы Маня. – Сяброўка, можа, твая?

– Якая сяброўка? – засмяялася Нюся. – Гэта невядома хто, Джаконда называецца.

– Ну і на халеру табе гэта Жаконда? Лепш сынаў партрэт павесіла б.

– От, што ты, мама, разумееш у мастацтве?

– І гэта нейкая Жаконда або дурнаватая, бо чаго яна ні з таго ні з сяго ўсміхаецца, гледзячы на мяне?

Зараз думкі ў Манінай галаве пачалі раіцца, не раўнуючы як летам пчолы ля вулляў.

"Можа, спадніцу на левы бок адзела, бо вельмі спяшалася раніцай на аўтобус?" – яна паставіла торбы на галалёд і паглядзела. Усё было ў парадку.

"Пэўна, лоб у сажы… – ажно зніякавела. – Выходзячы, у люстэрка ж не глянула… А мо, якая торба брудная? – агледзела кожную з усіх бакоў. – Не, усе чысценькія. Ненармальная нейкая баба, а я тут замарочваюся, клапачуся невядома чаго".

Ухапіўшы зручней сваю пакламжу, Маня пасунулася далей, але думкі пра тое, што ў яе нешта не так, не адставалі.

"Калі і на аўтастанцыі ці ў аўтобусе людзі будуць пазіраць на мяне і ўсміхацца, то я ўжо не ведаю…" – Маня была вельмі ўражлівая па натуры і звяртала ўвагу на ўсялякую дробязь, а тут раптам такое…

Ні на аўтастанцыі, ні ў аўтобусе ніхто больш не ўсміхаўся, гледзячы на яе, але гэта не супакоіла. Паставіла торбы на верандзе і, нават не распакоўваючы іх, пайшла да суседкі Броні Ворчык. Але ў той да дзвярэй быў прымкнуты венікдзяркач. Гэта яўная прыкмета, што гаспадыні няма дома.

– І дзе яе чорт носіць?! – ажно зазлавала на суседку. – Каб была дома, то, можа, што патлумачыла б.

Адпіхнула нагой чорнага Бронінага ката, які толькі і чакаў, каб адчынілі дзверы і ён хутчэй ускочыў у памяшканне, бліжэй да печы.

– Цябе тут толькі і не хапала! – накінулася са злосцю, нібы бедны кот быў у нечым вінаваты.

Маня пасунулася да другой суседкі – Ванды Кончык, што жыла насупраць. Ванда была дома, на кухні скубла пер'е для падушкі.

– Глянь, што ў мяне не так? – спыталася заклапочана.

– Што не так? – не зразумела суседка.

– Я і кажу: што? Ці ведаеш, іду я ў Рыжышках на аўтастанцыю, а насустрач нейкая баба. І гэтак усміхаецца, гледзячы на мяне. То я што не перадумала: і спадніца на левы бок, і лоб у сажы, і шмат што яшчэ.

– Ды ўсё так, – усміхнулася Ванда. – Гэта цябе сустрэла Альбіна Нічка з суседніх Калачкоў. Яна нашмат малодшая, то ты яе і не ведаеш. Альбіна доўгі час жыла ў Амерыцы ў дачкі, малую ўнучку гадавала. Казала, што там усе людзі ўсміхаюцца адзін аднаму.

– І незнаёмыя?! – здзівілася Маня.

– Ага, і незнаёмыя…

– А я ўжо падумала, ці ў мяне што не так, ці яна дурнаватая.

– Ой, гэта мы тут дурнаватыя, што ўжо і ўсміхнуцца баімся. Калі хто п'яны ідзе, то нармальна, а калі ўсміхаецца, то штосьці з чалавекам не так. Ці з намі не так, як во ты падумала…

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**
*г. Дзятлава.*



КАЗАХСТАН

## Назарбаев передает некоторые президентские полномочия парламенту

Депутаты обеих палат парламента Казахстана на совместном заседании приняли во втором и окончательном чтении законопроект о внесении изменений в Конституцию.

Принятые в понедельник поправки направлены на расширение роли парламента и правительства в политической жизни страны за счет передачи им части президентских полномочий.

В частности, правительству передается право утверждать государственные программы и единую систему финансирования и оплаты труда работников для всех органов, содержащихся за счет госбюджета.

Кроме того, законопроект расширяет роль мажилиса (нижней палаты) при формировании правительства, а также дает парламенту больше возможностей контролировать работу Кабинета министров.

Также в Конституцию Казахстана была внесена поправка о неизменности принципов деятельности республики, заложенных президентом Нурсултаном Назарбаевым, сообщил депутат мажилиса Нурлан Абдиров.

РУМЫНИЯ

## Против коррупции

Порядка 10 тысяч жителей Бухареста вышли вечером в воскресенье на антикоррупционную демонстрацию. Они вновь обвинили правящую Социал-демократическую партию в том, что она препятствует борьбе с коррупцией.

Протестные акции меньшего масштаба прошли и в других городах страны.

СКАНДАЛЫ

## Эрдоган обругал Германию

Президент Турции Реджеп Тайип Эрдоган обвинил власти Германии в том, что они применяют «фашистские методы», запрещая членам правительства Турции вести пропагандистскую кампанию на своей территории. Власти нескольких немецких городов запретили митинги, на которых министры турецкого правительства должны были выступить перед живущими в Германии турками.

«Германия, ты не имеешь никакого отношения к демократии и должна знать, что твои нынешние действия не отличаются от того, что было во времена нацизма», – заявил Эрдоган в воскресенье на митинге в Стамбуле.

Президент Эрдоган пытается заручиться поддержкой своей конституционной реформы среди примерно трех миллионов проживающих в ФРГ турецких граждан. Референдум по внесению поправок в Конституцию пройдет в Турции 16 апреля.

ГДЕ ЭТО ВИДАНО…

## В китайской деревне сразу более 160 пар подали на развод

Власти решили снести деревню Цзяньбей в провинции Цзянсу, чтобы на ее месте построить центр по развитию технологий. В результате семьям, которые живут в деревне Цзяньбей по несколько десятилетий, придется покинуть свои дома. Правительство обещало выделить семьям дома площадью 220 квадратных метров.

Однако жители деревни выяснили, что в случае, если пары будут разведены через суд, то им полагается дополнительные 70 квадратных метров недвижимости и компенсация наличными. Супружеские пары поняли, что могут претендовать на два новых дома или на дополнительную компенсацию от 19 тысяч долларов, если они разведутся и юридически будут числиться как люди, не состоящие в браке.

Пока не ясно, получат ли разведенные пары дополнительные компенсации на самом деле. Власти знают об этой лазейке в законе, но не сообщают, будут ли изменены условия получения компенсации.

НА СВЯЗИ – ГЕРМАНИЯ

## «Шульцемания» набирает обороты

Ветры перемен в Германии дуют в сторону немецких левоцентристов: кандидат от социал-демократов Мартин Шульц набирает очки и имеет все шансы сменить на посту канцлера Ангелу Меркель, а его партия сейчас находится в лучшей за последнее десятилетие форме.

У Мартина Шульца нет высшего образования и опыта работы в правительстве, но он хороший оратор, владеющий тремя иностранными языками. У него репутация убежденного европейца, что тоже импонирует многим немецким избирателям: в течение многих лет Шульц представлял свою страну в Европарламенте, был его председателем.

С момента вступления в предвыборную гонку в январе рейтинг популярности Шульца стремительно взлетел вверх, и сейчас он даже обходит Ангелу Меркель. По данным последних опросов, если бы выборы проводились сегодня, социал-демократы выиграли бы, получив 32% голосов избирателей, а христианские демократы Меркель – лишь 31%. При этом 50% граждан страны против 39% предпочли бы Шульца во главе правительства.

Итак, единственной реальной альтернативой Меркель выступает сейчас лишь Шульц. Немцы уважают его также за то, что он смог справиться с алкоголизмом, от которого страдал в юности, и за то, что открыто говорит об этом, предостерегая молодых. Популярность экс-председателя Европарламента возросла и в связи с обещанием провести смелые реформы социального обеспечения. А аналитики уже говорят о наступившей в Германии «шульцемании» – кампания социал-демократов набирает обороты.

## Министр иностранных дел ФРГ Зигмар Габриэль подчеркнул важность реформ в Украине

Германия заинтересована в поддержке экономического и социального развития Украины, но хочет видеть, что процесс реформ протекает успешно, заявил в Киеве во время встречи с депутатами Верховной Рады министр иностранных дел ФРГ Зигмар Габриэль.

Одной из важнейших тем при этом, по его словам, является борьба с коррупцией. «Мы хотим помочь, но мы хотим быть уверены, что деньги дойдут до простых украинцев, а не исчезнут в каких-то каналах», – подчеркнул немецкий министр.

Одновременно Габриэль указал, что экономическое развитие является важной составляющей защиты страны от агрессии. «Самое мощное оружие демократии – не военное, а демонстрация того, что при демократии живется лучше, чем без нее», – отметил глава германского внешнеполитического ведомства. Когда у детей есть будущее, у пенсионеров – обеспеченная жизнь, в стране налажена инфраструктура, то у агрессоров становится все меньше шансов вмешаться во внутренние дела страны, добавил он.

Говоря о конфликте на востоке Украины, Габриэль подчеркнул важность соблюдения режима тишины и отвода тяжелых вооружений от линии соприкосновения. Когда будут соблюдены эти условия, можно надеяться на начало политического процесса разрешения конфликта, заявил он.

## Начнет ли дешеветь жилье в Берлине?

Немецкий рынок недвижимости взбудоражила новость: в Берлине, а также в трех других крупных городах Германии высока вероятность того, что начнут снижаться цены на жилье.

Такой прогноз содержится в традиционном весеннем докладе правительству ФРГ, представленном в середине февраля Центральной комиссией по недвижимости – головным объединением крупных немецких компаний и отраслевых союзов со штаб-квартирой в Берлине.

Бурный рост цен на жилье наблюдается в Германии с 2010 года, и с тех пор уже не раз звучали предупреждения об угрозе обвального падения перегретого рынка. Особенность доклада ZIA, вызвавшего оживленную дискуссию не только среди профессионалов, состоит в том, что он не прогнозирует каких-либо «опасных последствий» для домовладельцев и инвесторов в целом в Германии, но зато недвусмысленно предупреждает об окончании бума конкретно в столице страны.

«На наш взгляд, в Берлине можно с уверенностью исходить из смены тренда на рост цен, в Мюнхене она вероятна, в Гамбурге и Франкфурте-на-Майне возможна», – отмечает один из авторов доклада профессор **Харальд Зимонс**. В ближайшие 4–5 лет квартиры могут подешеветь в этих городах в пределах 30 процентов. Такой вывод эксперт обосновывает тремя ключевыми факторами.

Во-первых, вот уже пять лет жилая недвижимость в Берлине и некоторых других крупных немецких городах дорожает существенно быстрее, чем арендная плата. Возникший разрыв не может бесконечно увеличиваться, поскольку он лишает инвесторов, приобретающих квартиры с целью сдачи их в аренду, приемлемой нормы прибыли. Ценам на съемное жилье достаточно просто застыть на нынешнем уровне – и квартиры начнут дешеветь, утверждает Харальд Зимонс.

Нового жилья будет больше, мигрантов – меньше.

Однако в Берлине ставки арендной платы будут не просто стагнировать, а снижаться, подчеркивает профессор и указывает на второй ключевой, с его точки зрения, фактор: изменение миграционных потоков внутри Германии. Приток новых жителей в Берлин, Мюнхен и Гамбург замедлился, внутренние мигранты, прежде всего молодежь, и прибывающие в страну иностранцы все больше переключаются на города с более доступными ценами аренды. В докладе упоминаются, в частности, Эрланген и Регенсбург на западе, а также Лейпциг и Росток на востоке страны.

А тут еще и третий фактор: стремительно нарастающее жилищное строительство, особенно в Берлине. «Запущена «машина по производству жилья», все более крупные комплексы на тысячи квартир либо разрабатываются, либо уже сооружаются, либо вот-вот поступят на рынок», – констатирует соавтор доклада ZIA.

## Кто будет первой немкой на орбите?

В Германии завершается конкурсный отбор женщин для дебютного полета на МКС. Жюри определило финалисток.

Выбрать наиболее подходящую для полета в космос претендентку было решено с помощью конкурса. О размещении вакансии объявили весной 2016 года. Желающих побывать на Международной космической станции оказалось свыше 400 человек. 86 из них прошли предварительный отбор.

Серьезные испытания начались осенью. Чтобы доказать отличную физическую подготовку, способность работать в команде и переносить психические нагрузки, претенденткам пришлось пройти тщательные медицинские обследования и многочасовые тесты на компьютере, составленные в соответствии со стандартами Европейского космического агентства.

Во второй отборочный тур попали 30 участниц. В октябре и январе они были приглашены в Гамбург, а затем в Кёльн, где специалисты Германского центра авиации и космонавтики (DLR) проводили собеседования и тестировали их с помощью ролевых игр.

В итоге названо шесть имен. Возраст отобранных финалисток – от 28 до 37 лет.

Знакомим с ними вкратце *(на снимке слева направо).*

**Инза Тиле-Айх** – метеоролог по специальности. Окончила Боннский университет и работает сейчас в этом вузе.

**Сюзанне Петерс** – инженер в области авиационно-космической техники, пишет кандидатскую диссертацию при Мюнхенском университете бундесвера.

**Магдалена Прее,** уроженка Австрии, – специалист по космической технике. Выпускница Мюнхенского технического университета.

**Лиза Мария Хаас** – изучала физику в Гейдельберге, работает инженером-разработчиком на предприятии Robert Bosch в Ройтлингене.

**Сюзанна Рандаль** – астрофизик из Мюнхена, занимается исследованием эволюции звезд.

**Никола Бауман** – пилот «Еврофайтера», майор бундесвера, живет и работает под Кёльном.

РЕЙТИНГ

## Вот они, миллиардеры…

*Агентство Блумберг опубликовало рейтинг 500 самых богатых людей мира*

В тройке лидеров – основатель компании Microsoft **Билл Гейтс** с состоянием в 85,6 млрд долларов, инвестор **Уоррен Баффетт** с 78,9 млрд и телекоммуникационный магнат **Карлос Слим,** чье состояние оценивается в 53 млрд долларов США.

В первой сотне **рейтинга агентства Блумберг** – восемь россиян: на 47-м месте совладелец компаний СИБУР и «Новатэк» **Леонид Михельсон** с состоянием в 17,5 млрд долларов; на 51-м – глава «Норильского никеля» **Михаил Потанин** (16,6 млрд); 54-е место у председателя совета директоров «Северстали» **Алексея Мордашова** (16,5 млрд); 62-е место занимает глава группы «Ренова» **Виктор Вексельберг** (14,8 млрд).

70-е и 71-е места в рейтинге миллиардеров делят совладелец USM Holdings **Алишер Усманов** и глава совета директоров НЛМК **Владимир Лисин** – у каждого по 13,9 млрд долларов; на 74-м месте находится совладелец «Альфа-Групп» **Михаил Фридман** (13,4 млрд); и замыкает первую сотню владелец компаний «Еврохим» и СУЭК **Андрей Мельниченко** с 11,6 млрд долларов.

Ненамного отставший от Мельниченко глава «Лукойла» **Вагит Алекперов** с 11,4 млрд долларов оказался на 104-м месте, владелец инвестиционной группы Volga Group и старый знакомый Владимира Путина **Геннадий Тимченко** (11,3 млрд) – на 105-м, а владелец группы ОНЭКСИМ Михаил Прохоров (11,2 млрд) – на 108-й позиции рейтинга.

В рейтинг также вошли **Виктор Рашников, Сергей Галицкий, Алексей Кузьмичев, Олег Дерипаска, Искандер Махмудов** и другие бизнесмены из России.

Среди самых богатых людей мира никто из белорусов не числится.

